*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

**№14 (14)**

5 кастрычніка 1995 г.

Выдаецца на беларускай і рускай мовах

Кошт у розніцу — 700 руб.

# Народная Воля

Газета сверстана на компьютерах "ЛИНТЕК"
Lintec Computer

*Вы не паспелі падпісацца на "Народную волю"? У вас яшчэ ёсць шанц атрымліваць газету з 1 лістапада. Для гэтага трэба аформіць падпіску да 15 кастрычніка.*

*Наш індэкс 63222. Кошт падпіскі на месяц — 12 тысяч рублёў, на 2 месяцы — 24 тысячы.*

## Цель президента достигнута: парламент фактически парализован. Но при этом окружение Лукашенко забывает: не будет законодательной власти – не будет и демократического государства Беларусь

Тот, кто смотрел на днях выступление А.Лукашенко по телевидению, помнит его слова о том, что он поручил руководителю своей администрации связаться с главами исполнительной власти на местах с целью, чтобы те предприняли определенные меры воздействия на депутатов, которые собираются принять участие в продолжении сессии Верховного Совета. Приказ "батьки" в Бресте, Гомеле, Могилеве, Витебске и других больших и малых городах приняли к безусловному исполнению. На рабочих местах депутатов и в их квартирах раздались телефонные звонки с предупреждением, что лучше в Минске не появляться. И, конечно, многие дрогнули: ни во вторник, ни в среду до кворума не удалось дотянуть.

И больно, и грустно, и страшно. Неужели нашему президенту непонятно, что государство не может оставаться даже на один день без такой ветви власти, как законодательная. В противном случае государство распадается, а устанавливается диктатура.

К чести подавляющего большинства депутатов, они правильно осознают свою ответственность за судьбу Беларуси. А потому предпринимают все для того, чтобы сохранить нынешний парламент до того дня, когда в зал заседаний Верховного Совета войдут депутаты нового созыва и примут у них власть. В продолжившейся вчера дискуссии и спикер, и многие парламентарии обращали внимание на то, что президент, не считаясь с Конституцией, фактически стремится парализовать одну из ветвей власти, что чревато большими опасностями для страны. Принято решение продолжать работу в комиссиях, а при возможности возобновить пленарные заседания.

Время ярко высвечивает, кто есть кто. А потому даже в этом коротком репортаже нельзя не назвать ряд фамилий. Ни позавчера, ни вчера в зале заседаний Верховного Совета не появились такие депутаты, как Кулаков, Радецкий, Мачуленко, Дементей, Сумар, Камай, Тишкевич, Доменикан, Кебич, Домаш, Казючиц, Прокопов, Писаревич и некоторые другие. Что ж, есть о чем задуматься избирателям.

В республике не только экономический, но и политический кризис. Бедная страна, бедные люди...

**Сергей КОРОСТЫЛЕВ.**

**Каментарый з нагоды**

## Амерыканскія і нямецкія бізнесмены засведчылі, што належныя ўмовы для развіцця вытворчасці і бізнесу на Беларусі пакуль што не створаны

**Закончыліся Дні эканомікі нямецкай зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія ў Беларусі, завяршыўся візіт амерыканскіх бізнесменаў. Якія вынікі?**

Афіцыйная прапаганда паспяшалася даць на гэтае пытанне станоўчы адказ. Але ж ці адпавядае гэта сапраўднасці?

Сапраўды, упершыню да нас прыязджалі такія вялікія групы дзелавых людзей з дзвюх самых магутных і ўплывовых краін свету — ЗША і Германіі. Яны маглі і павінны былі б стаць пачаткам буйнамаштабнага супрацоўніцтва ў шэрагу галін. На жаль, гэтага не адбылося. Паездкі вядомых бізнесменаў набылі чыста азнаямленчы характар, хоць многія з іх прывезлі салідныя прапановы. Але, убачыўшы, што тут адбываецца, павезлі іх назад. Дзелавыя госці не ўбачылі ў нас ні рэальных рэформ, ні больш-менш прыдатных умоў для разгортвання вытворчасці, ні павагі да законаў і правоў чалавека...

Кіраўнік дэлегацыі з Нямеччыны статс-сакратар міністэрства эканомікі названай вышэй зямлі Хартмут Крэбс заявіў, што супрацоўніцтва пачнецца тады, калі на Беларусі будуць створаны ўмовы для дзейнасці інвестараў. Пакуль жа будуць праводзіцца ў асноўным адукацыйныя мерапрыемствы, такія, як павышэнне кваліфікацыі кіруючых кадраў прадпрыемстваў і г.д.

Амерыканскія бізнесмены ў адзін голас гаварылі пра шматлікія перашкоды для вытворцаў, якія існуюць на Беларусі. Яны спасылаліся на высокія падаткі, марудны ход прыватызацыі, зямельнай рэформы, наогул рыначных пераўтварэнняў, парушэнне правоў чалавека. Пасол ЗША Кенет Яловіц адзначыў, што прыток інвестыцый можна чакаць толькі тады, калі Беларусь стане на шлях рыначных рэформаў. Урад ЗША хацеў бы таксама, каб наша краіна інтэгравалася не толькі на Усход, але і на Захад.

Вось ужо чатыры гады запар улады (былыя і цяперашнія) бясконца пераконваюць нас, што яны ажыццяўляюць рыначныя рэформы, пераадольваюць крызіс. І кожны раз, калі да нас прыязджаюць вядомыя спецыялісты і бізнесмены з Захаду, мы чуем ад апошніх таксама адно і тое ж — яны тут, на Беларусі, пакуль што не бачаць рэформаў.

Нядаўна вялікі дэсант дзелавых людзей ЗША і Германіі зноў пацвердзіў усё тую ж ісціну — рэальныя, маштабныя рэформы ў Беларусі пакуль што не пачаты, належныя ўмовы для развіцця вытворчасці і бізнесу не створаны.

Калі ж у нас ад размоў пяройдуць да спраў?

**Андрэй РУСАКОВІЧ.**

## Беларусь — не Чэчня

**Прэс-сакратар Беларускага народнага фронту Сяргей Навумчык у гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН пракаменціраваў зварот расійскага Савета федэрацыі да кіраўніцтва краіны аб правядзенні рэферэндуму па пытанні паглыблення палітычнай і эканамічнай інтэграцыі Беларусі з Расіяй.**

Ён, у прыватнасці, заявіў, што палітычная інтэграцыя дзвюх краін з'явілася б антыканстытуцыйным дзеяннем, бо прыводзіла б да абмежавання ці скасавання дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі. С.Навумчык лічыць, што для ажыццяўлення палітычнай інтэграцыі неабходна было б правесці рэферэндум па гэтаму пытанню не толькі ў Расіі, але і ў Беларусі, а існуючы ў рэспубліцы закон аб рэферэндуме не дапускае вынясення на ўсенароднае галасаванне пытанняў, якія датычацца суверэнітэту краіны. "Калі расіяне хочуць правесці гэты рэферэндум, — зрабіў выснову прэс-сакратар БНФ, — няхай праводзяць. Але яны павінны зразумець, што ў выніку такога роду інтэграцый атрымаюць другую Чэчню, а ў крэсла расійскага прэзідэнта сядзе Аляксандр Лукашэнка".

**Алесь КНЯЗЮК,**
**БелаПАН.**

## Кандуктар, спяшайся...

Памятаеце такую папулярную ў свой час песню са словамі: "Кондуктор не спешит, кондуктор понимает..."? Дык вось, у Шчучыне папрасілі "паспяшаць" менавіта кандуктараў. Справа ў тым, што калі гарадскія аўтобусы ездзілі без іх, то выручка ад пасажырскіх білетаў складала 8 мільёнаў рублёў у месяц. Зараз пры кандуктарах — 18 мільёнаў. Станоўчыя вынікі на відавоку, але мясцовыя так званыя "зайцы"-безбілетнікі смуткуюць.

**Ю.ГОРНЫ,**
**г.Гродна.**

## ЗАКОН Рэспублікі Беларусь

### Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь"

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

I. Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 27 кастрычніка 1989 года "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь" (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1995 г., N 1—2,арт.3) наступныя змяненні і дапаўненні:

1. У частцы другой артыкула 56 словы "пры ўмове, што колькасць галасоў, пададзеных за кандыдата ў дэпутаты, больш за колькасць галасоў, пададзеных супраць яго" выключыць.

2. У частцы другой артыкула 57:

трэці сказ пасля слоў "Паўторныя выбары" дапоўніць словамі "ў першым і другім туры галасавання";

пасля слоў "прынялі ўдзел больш" лічбы "50" замяніць лічбамі "25";

чацвёрты сказ пасля слова "Выбраным" дапоўніць словамі "ў першым туры галасавання";

3. Дапоўніць артыкул 57 часткай наступнага зместу:

"Другі тур галасавання пры паўторных выбарах праводзіцца ў парадку, прадугледжаным артыкулам 56 гэтага Закона".

II. Увесці гэты Закон у дзеянне з моманту яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА.**

7 верасня 1995 г., г.Мінск.
N 3857-XII

**Закон лічыцца падпісаным згодна з п.20 артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь**

## ЗАКОН Рэспублікі Беларусь

### Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь"

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

I. Унесці ў Закон Рэспублікі Беларусь ад 27 кастрычніка 1989 года "Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь" (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1995 г., N 9—10, арт.113) наступныя змяненні і дапаўненні:

1. У частцы другой артыкула 53 словы "пры ўмове, што колькасць галасоў, пададзеных за кандыдата ў дэпутаты, больш колькасці галасоў, пададзеных супраць яго" выключыць.

2. У частцы другой артыкула 54:

трэці сказ пасля слоў "Паўторныя выбары" дапоўніць словамі "ў першым і другім туры галасавання";

пасля слоў "прыняло ўдзел больш" слова "палавіны" замяніць словамі "25 працэнтаў";

чацвёрты сказ пасля слова "Выбраным" дапоўніць словамі "ў першым туры галасавання".

II. Увесці гэты Закон у дзеянне з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА.**

7 верасня 1995 г., г.Мінск.
N 3858-XII

**Закон лічыцца падпісаным згодна з п.20 артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь**

### Ад рэдакцыі.

**Як вядома, дадзеныя законы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнка не падпісаў. Але, як растлумачыў ва ўчарашнім выступленні М.Грыб, яны ўступаюць у сілу ў адпаведнасці з п.20 артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.**

**Вышэйнадрукаваныя законы паступілі ў рэдакцыю "Народнай волі" з Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

## Што пацячэ з Ямала

**Другі тур тэндэрных таргоў па будаўніцтву газаправода Ямал—Заходняя Еўропа на беларускім участку ад горада Нясвіж да мяжы з Польшчай, які планавалася правесці 25 верасня ў Маскве, перанесены на 15 кастрычніка.**

Да другога тура з 40 фірм, што падалі заяўкі на ўдзел у першым туры тэндэра, былі дапушчаны 14 фірм з Расіі, Беларусі, Украіны, Германіі, Славакіі, Венгрыі, Чэхіі, Літвы і іншых краін.

Як паведаміла БелаПАН крыніца ва ўрадавых колах рэспублікі, правядзенне тэндэра перанесена ў сувязі з пэўнай непадрыхтаванасцю яго арганізатараў. Паводле сцвярджэння крыніцы, тэрміны будаўніцтва беларускага ўчастка газаправода, зацверджаныя раней, застаюцца ў сіле: двухніткавы ўчастак працягласцю ў 209 км з дыяметрам трубы 1400 мм і рабочым ціскам 83 бары пачне будавацца ў IV квартале гэтага года. Увядзенне яго ў эксплуатацыю запланавана на I квартал 1997 года.

**Яўген ГРУБІЧ,**
**БелаПАН.**

## Збудавалі для... скразнякоў

Паўтары сотні кватэр, акрамя аб'ектаў сацбыткульту, мае на сваім балансе Нягневіцкая ПМК-58 меліярацыі, якая налічвае амаль трыццаць гадоў у сваёй біяграфіі. Яшчэ два гады назад тут пабудвалі адзінаццаць двухкватэрных катэджаў. Але і сёння яны пустуюць. "Падножку" будучым навасёлам падставіла Навагрудскае раённае прадпрыемства электрасетак. Маўляў, пракладзіце, паважаныя, два кіламетры падземнага кабелю — дадзім святло. Перамовы задоўжыліся, а тым часам у дамах гуляюць скразнякі і зладзеі.

**Г.ЮРКАВЕЦ,**
**г.Гродна.**

## Президент о кадровых изменениях в руководстве республики

На состоявшемся 3 октября совместном заседании Совета безопасности и правительства Беларуси президент Александр Лукашенко объявил о предполагаемых изменениях в руководстве республики. Он, в частности, сообщил, что на пост главы администрации президента будет представлена кандидатура нынешнего заместителя премьера Михаила Мясниковича, а Леонид Синицын, возглавляющий ныне администрацию, и его заместитель Василий Долголев, возможно, получат портфели вице-премьеров.

**Владимир ГЛОД,**
**БелаПАН.**

*Арсен САКУН*

## У нас укралі самае дарагое — жыццё

### Роздум ля бацькавай магілы

Яго, нябожчыка, у нас нібы ўкралі. Жыў чалавек, лічы, ніколі сур'ёзна не хварэў, ні разу за свае 77 не трымаў у руках лістка непрацаздольнасці. Як любіў звычайна жартаваць ён, хварэць проста не было калі. А мы ж усё бачылі, што ад прыроды ён такі моцны, здароўем матухна-прырода яго не пакрыўдзіла, бачыла, колькі давядзецца яму папрацаваць на сваім вяку. У дваццаць шэсць ставіла майго бацьку ў строй байцоў Вялікая Айчынная, дарогамі якой прайшоў ад званка да званка. Памятаю, як, пасадзіўшы ўсіх шасцярых нас, сваіх дзяцей, за стол, расказваў ён вечарамі пра тыя самотныя гады. Мы слухалі яго і радаваліся ў душы, які ў нас бацька — смелы, мужны, нязломны. Так хацелася самому стаць падобным на яго.

Падрастаючы, заўважыў я ў бацькі і тое, які ён здатны да ўсяго, колькі ў яго было ўсялякага інструменту і прылад. Сваімі рукамі ён майстраваў усё па гаспадарцы: разнастайныя бочкі і бочачкі, кадушкі і канапы, полкі і паліцы, ложкі і рамы, дзверы і скрыні. І цяслярыў. Ды як! Ідучы вуліцамі сваіх родных Губарэвічаў, я любіў лічыць дамы, на вуглу якіх падчас будаўніцтва сядзеў мой бацька. А іх шмат. Ды і ў навакольных вёсках няма, куды забіралі нашага бацьку матацыкламі, машынамі і падводамі. Хтосьці разводзіў новую хату, хтосьці пашыраў старую прыбудовамі, і такія спецыялісты былі на вагу золата.

Мала калі мы бачылі свайго бацьку, каб ён адпачываў. Увесь час ён нешта рабіў, чымсьці быў заняты. Дзверы нашай хаты былі расчынены для ўсіх, і людзі прыходзілі — больш усяго за парадамі.' І якім бы занятым ні быў наш бацька, ён ніколі ні ў чым нікому не адмовіў. Часам маці бурчэла на яго за гэта, маўляў, сваё кідаеш, а ідзеш да людзей. А ён быў настолькі цярплівы і моцны, што ківае галавою перад маці і ні слова не кажа — пойдзе дапаможа суседу, і сваё паспее зрабіць...

Надарылася так, што ўсёй сям'ёй прыехаў я ў Брэст да роднага бацькі на ўваходзіны ў новую кватэру. Як чарнобыльскі выгнаннік атрымаў ён яе там па абавязковаму адсяленню. Да гэтага пяць гадоў пражыў на забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі са сваёй нязменнай спадарожніцай Сашай — нашай маці, па савецкім часе маці-гераіняй, якая нарадзіла і паставіла на ногі нас, шасцярых галадранцаў, двое з якіх прыйшлі на свет разам пад нумарам пяць і шэсць.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

**Погляд**

# Верасень: як пражылі?

### I. Пасля "перамогі" над паветраным шарам распачаўся наступ на "чаўнакоў" і льготнікаў

У верасні было занадта многа падзей, якія выклікаюць трывогу і неспакой.

Найперш яны яскрава высвецілі некампетэнтнасць улад, іх непадрыхтаванасць вырашаць наспелыя праблемы. Вайна з паветраным шарам, аб якой шмат напісана ў нашым і сусветным друку, засведчыла адсутнасць у цяперашніх чыноўнікаў кваліфікаваных дзеянняў і цывілізаваных навыкаў. Тое ж можна сказаць і аб захадах па вырашэнню эканамічных і палітычных праблем.

Возьмем хоць бы ўказ прэзідэнта і рашэнне Кабінета Міністраў аб падатку на дабаўленую вартасць і акцызах на ўвозімыя ў краіну тавары. На гэтыя дакументы не звярнуў належнай увагі афіцыйны друк. А дарэмна. Яны, на мой погляд, могуць нанесці моцны ўдар і па жыццёваму ўзроўню грамадзян, і па стабільнасці ў дзяржаве.

Прымаемыя меры накіраваны супраць "чаўнакоў", якія ў чамаданах і баулах вязуць з многіх краін свету дамоў самыя розныя і неабходныя тавары. Уводзімыя мытныя пабары ў адных могуць адбіць ахвоту займацца падобным бізнесам, другія ж пачнуць шукаць, як кажуць, абходныя шляхі, падымаць цэны і г.д. І што мы атрымаем? Па прыкідках спецыялістаў, у нас каля 400 тысяч "чаўнакоў". Часцей гэта работнікі тых прадпрыемстваў, якія тыднямі, а то і месяцамі прастойваюць. Цяпер многія з іх стануць беспрацоўнымі. З кіёскаў, таўкучак знікнуць многія патрэбныя рэчы альбо рэзка падскочаць цэны на іх. Без работы застануцца лётчыкі, аўтобуснікі, чыгуначнікі, якія перавозілі "турыстаў-купцоў"...

Каму гэта выгадна? Ды нікому. Я лічу, што падобныя дзеянні ўлад сведчаць, што яны абсалютна не знаёмы з вопытам выхаду з крызісу іншых краін. Амаль паўсюдна ў падобных сітуацыях дазвалялі сваім грамадзянам бясплатна і без усялякіх перашкод цягнуць дамоў усё, што яны змаглі раздабыць. І гэта спрыяла людзям не толькі зводзіць канцы з канцамі, але і развіццю бізнесу, уздыму іх ініцыятывы.

Такой жа непрадуманасцю, некампетэнтнасцю вылучаецца, на маю думку, і рашэнне па льготах. У цэлым яно даўно наспела. Хіба гэта нармальна, калі ў краіне амаль усе льготнікі. Ды такое не вытрымае ніякі бюджэт. Добра, што нарэшце ўзяліся за гэта. Прынята шэраг патрэбных, талковых мер.

Але хапае і бесталковых. Як можна пагадзіцца з нормай, згодна з якой студэнты ВНУ, якія атрымліваюць тройкі, наогул пазбаўляюцца стыпендый. Знешне ўсё выглядае быццам бы правільна. А калі ўдумацца? Хто на першых курсах будзе атрымліваць тройкі, ясна ўжо цяпер. Канешне ж, юнакі і дзяўчаты, якія прыехалі з глыбінкі, дзе ў школах не хапае настаўнікаў і даволі нізкі ўзровень выкладання. Хіба ж яны вінаваты, што дзяржава не змагла даць ім у школе глыбокія веды? Да таго ж яны, як правіла, з бедных сем'яў. За што ж іх пазбаўляць стыпендый — адзінага сродку для выжывання і перадаваць яе тым, чые гарадскія бацькі ездзяць на іншамарках?

Вопыт паказвае, што студэнты з глыбінкі толькі на першых курсах вучацца слаба. Пазней яны абганяюць многіх гарадскіх і становяцца найлепшымі спецыялістамі. Цяпер многія з іх вымушаны будуць "адсейвацца". Да таго ж хіба стыпендыя — гэта льгота?

А ці варта "біць" інвалідаў Чарнобыля, пазбавіўшы іх ільгот на набыццё лекаў і крэдытаў для будаўніцтва жылля?

У гэтым шэрагу бачыцца і вымушаная адстаўка старшыні Нацбанка Багданкевіча, аб якой варта сказаць асобна.

Бадай, самая прыкметная і самая важная з'ява апошніх месяцаў — стабілізацыя беларускага рубля. Яе паспелі ацаніць ужо многія. Людзі болей не закупляюць валюту на ўсю зарплату, банкі пачалі смялей укладваць грошы ў вытворчасць... Далей павінны былі пайсці рэформы і ўздым эканомікі. Але не пайшлі...

Такім чынам, ва ўрадавай праграме першачарговых мер па выхаду з крызісу выканана толькі адна частка — фінансавая... альбо тая, якую курыраваў Багданкевіч. Здавалася б, варта падтрымаць добры пачатак у фінансавай сферы, узяцца за тых, хто правальвае свае заданні, каб і на другіх участках эканомікі пачалося прасоўванне наперад. Але "ўзяліся" за Багданкевіча, які вымушаны быў падаць у адстаўку. Гэта абсалютна не паддаецца разважліваму сэнсу.

Чаму ж пазбавіліся ад спецыяліста вышэйшай кваліфікацыі, бадай, самага кваліфікаванага на вышэйшым паверсе, якога, як гавораць, нават запрашае ў сваю банкаўскую сферу Расія? Асабіста я бачу дзве прычыны. Першая ў тым, што Багданкевіч не толькі прафесіянал сваёй справы, але і чалавек дэмакратычных, рыначных перакананняў, які да таго ж мае ўласную думку і не збіраецца нікому глядзець у рот. А такія сёння не патрэбны. Даспадобы бяздумныя, ліслівыя выканаўцы.

Другая прычына больш глыбокая. Апошнім часам Лукашэнка загаварыў аб "рыначным сацыялізме", да якога, мабыць, збіраецца весці наша грамадства. Гады тры-чатыры назад і ў друку, і сярод дэпутатаў, як нашых, так і маскоўскіх, ужо ішла дыскусія аб сацыялістычным, рэгулюемым рынку. І ўжо тады дыскутанты прыйшлі да вываду, што сацыялістычны рынак — гэта тое ж самае, што і гарачы снег. І першага і другога ніхто нідзе не бачыў, бо яны не існуюць у прыродзе. Ёсць рынак і ёсць сацыялізм. Яны абсалютна не сумяшчальныя. Пасля таго Расія хоць і са скрыпам, але пайшла да рынку, Польшча і Прыбалтыка — таксама, і мы бачым у іх зрухі да лепшага. А Беларусь і Украіна працягвалі будаваць той самы сацыялістычны рынак. І дабудаваліся... Выходзіць, цяпер будзем яго будаваць яшчэ шпарчэй? А гэта значыць адно — будзем яшчэ шпарчэй апускацца ў галечу.

Раз вызначаны такі паварот, назад да сацыялізму, то ўжо не патрэбны і спецыялісты-рыначнікі, такія як Багданкевіч. Вось ад іх і пазбаўляюцца.

Скажаце, не ўсё так проста. Тады, калі ласка, растлумачце праз газету, колькі гадоў нам яшчэ перабудоўвацца, каб наладзілася нармальнае жыццё?

### II. Канфедэратыўныя манеўры?

У другой палове верасня беларускі прэзідэнт нечакана адмяніў сустрэчу з міністрам замежных спраў Славакіі і паехаў у Маскву, адтуль — у Сочы, Кіеў. Што прымусіла? Адны сродкі масавай інфармацыі сцвярджаюць, што размова вялася аб канфедэрацыі ці федэрацыі, а дакладней — аб аб'яднанні Беларусі і Расіі. Як паведаміла газета "Известия" ў артыкуле "Канфедэратыўныя манеўры Аляксандра Лукашэнкі" (гл. "Известия" N 182), ёй стала вядома, што беларускі прэзідэнт у вузкім коле прапанаваў "пакуль не стройны дакумент, а канцэптуальныя тэзісы канфедэрацыі, якія знайшлі разуменне ў расійскага боку". Аб гэтым паведамілі і вядомыя сусветныя агенцтвы.

Пакуль што нічога не гавораць на гэту тэму нашыя афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі. Мабыць, таму, што яшчэ не склалі салодкую казачку, што нібыта ўсё робіцца дзеля шчасця працоўнага люду.

Другія лічаць, што Расія спрабуе стварыць новы ваенна-палітычны блок супраць НАТО, аснову якога магло б скласці славянскае ядро СНД.

Сам Лукашэнка абвяргаў такія довады. У Маскве ён сцвярджаў, што абмяркоўваў з расійскім прэм'ерам праблемы мытнага саюза. Але чым больш ішло абвяржэнняў, тым больш мацнела перакананасць удумлівых аглядальнікаў, што пра галоўнае высокія асобы, відаць, не гавораць. Надта ўжо непераканаўчымі гучаць іх сцвярджэнні наконт таго, што абмяркоўвалі толькі мытныя праблемы. Калі так, дык што ж такое здарылася на тэй мытні, што прэзідэнт Беларусі адкінуў усе справы і заняўся ёю? Штосьці не было чуваць пра які-небудзь "пажар" на ёй? Нарэшце, мытня — справа прэм'ераў. Чаму Чыгір не вырашае тыя праблемы з Чарнамырдзіным? Яму не давяраюць ці ён няздольны? Больш таго, не так даўно падпісалі тую мытную дамову. Калі ж наспелі тыя змены, што патрэбна сустрэча аж прэзідэнтаў? Відаць, у свой час падпісалі недасканалы дакумент? Шмат паўстае іншых пытанняў.

Пэўнае, як кажуць, святло пралілося ў інтэрв'ю Лукашэнкі беларускім журналістам, якое круцілі па тэлевізару. Прэзідэнт нарэшце сказаў, што абмяркоўваліся пытанні больш цеснай інтэграцыі Расіі і Беларусі, якія будуць прапрацоўвацца ўсю восень і зіму. Словам, вясной, перад прэзідэнцкімі выбарамі ў Расіі, нам і аб'явяць аб форме інтэграцыі. Усё гэта толькі пацвярджае "известинскую" версію.

Да такой думкі схіляюць і памкненні скалаціць новы ваенна-палітычны блок. Але як яго стварыць, калі Украіна падпісала асобую дамову з НАТО па формуле: "16 + 1"? На мой погляд, яе вымусіла на такі крок Расія сваімі пагрозамі і нежаданнем дзяліць Чарнаморскі флот, спрабай разыграць "крымскую карту". У пошуку бяспекі сваёй незалежнасці яна і схілілася да НАТО.

Міністры замежных спраў Малдовы, Туркменіі, Украіны, прыбалтыйскіх дзяржаў заявілі, што ў ніякія расійскія блокі яны ўступаць не збіраюцца.

Што можа ўнесці ў новы блок, скажам, Таджыкістан, які не зможа самастойна ахоўваць нават уласную граніцу? Якую ваенную падтрымку можна чакаць ад усёй Сярэдняй Азіі, якая няздольна дапамагчы суседу — Таджыкістану "закрыць" граніцу з Афганістанам? Чым можа напужаць НАТО Грузія, калі ўсё яе войска не можа адлавіць каля дзесятка тэрарыстаў, якія зрабілі ўжо замах на жыццё кіраўніка дзяржавы Шэварднадзе?

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## Магілёўская вобласць застаецца крымінальным "флагманам" рэспублікі

**По колькасці злачынстваў — 13,1 тысячы — магіляўчане на 64 працэнты перасягнулі свае леташнія паказчыкі. Абедзве лічбы не маюць сабе роўных па рэспубліцы.**

Вельмі красамоўны наступны прыклад. Як вядома, магіляўчане з'яўляюцца вялікімі аматарамі "ціхага палявання". У час аднаго з іх у мінулыя выхадныя быў знойдзены... пісталет "ТТ", які, як вядома, у лесе не расце. Міліцыя вядзе следства.

**Аляксандр АЛЕКСАНДРОВІЧ,**
**БелаПАН.**

## Надвор'е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца малавоблачнае надвор'е, без ападкаў.

Тэмпература паветра ў Магілёве і Віцебску — 13—15, Мінску і Гомелі — 14—16, Гродне — 15—17, Брэсце — каля 18 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак тэмпература паветра ўначы 3—8 градусаў цяпла, удзень — 15—20 градусаў.

